Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# Рэгіянальная газета

No 26(62) 28 чэрвеня–4 ліпеня 1996 года Цана свабодная

ІНФАРМАЦЫЙНА-РЭКЛАМНАЕ ВЫДАННЕ

## Падзея тыдня

Сёлета прэзідэнты Расіі і Беларусі прынялі рашэнне аб арганізацыі сумеснай акцыі ў дзень 55-й гадавіны пачатку Вялікай Айчыннай вайны– Дня агульнанароднай памяці і смутку. І не выпадкова месцам пачатку правядзення быў выбраны горад Брэст. Адсюль, з мяжы, і пачалася самая жорсткая вайна. Жахлівым супадзеннем з'яўляецца вырастаючая небяспечнасць пераўтварэння беларускай мяжы ў лінію, якая раздзяляе ўжо краіны НАТО і дзяржавы Супольнасці. Вынікі такой палітыкі вядомыя.

Змякчыў становішча зварот Вярхоўнага Савета - у сувязі з гэтай датай - да народа, палітычных партый, рухаў, грамадскіх арганізацый Беларусі. Асабліва такія словы, як: "Тлумачыць, а не падаўляць, спрачацца і дыскутаваць, разам шукаць ісціну, а не груба абрываць і павучаць– такі сёння шлях дасягнення ўзаемаразумення." Раней парламент зрабіў прапанову прэзідэнту выступіць на сесіі з дакладам аб палітычнай і эканамічнай сітуацыі ў рэспубліцы. Адказ пакуль не паследаваў. Крызіс яшчэ больш узмацніўся пасля выступлення А. Лукашэнкі 20 чэрвеня на рэспубліканскай нарадзе па пытаннях сацыяльна-культурнай сферы. Яно ўтрымлівала адмоўную ацэнку дзейнасці законатворцаў.

"Советская Белоруссия", "Звязда" апублікавалі прамову кіраўніка дзяржавы, з якой былі выключаны абвінавачванні ў адрас парламентарыяў. Увагу да гэтага факта прыцягнуў выступіўшы на нарадзе з растлумачэннем пазіцыі і дзейнасці парламента першы намеснік Старшыні ВС, лідэр фракцыі камуністаў Васіль Новікаў. Так што дасягненне ўземаразумення ў нашай рэспубліцы, па-ранейшаму, рэч не рэальная.

Поспехі ў знешняй палітыцы адзначаны першым паседжаннем Вышэйшага Савета Супольнасці з удзелам прэзідэнтаў Беларусі і Расіі. На ім разглядаліся пытанні працаўладкавання грамадзян, агульнага мытнага камітэта, бясплатнага праезду раз у год ветэранаў ВАВ, сацыяльныя. Аб перспектывах Супольнасці на прэс-канферэнцыі Ельцын адказаў каротка: "Як пойдзе справа". Па пытанню ўзгаднення ходу рэформ, якое, безумоўна, з'яўляецца галоўным, заявіў, што гэта яшчэ не абмяркоўвалася.

Цалкам зразумела, што сітуацыя тут праясніцца толькі пасля вынікаў другога тура прэзідэнцкіх выбараў у Расіі.

*Аяксандр УЛАДЗІН.*

## Адным абзацам

❑Дэпутаты ў мінулую пятніцу з другой спробы ўсё ж прагаласавалі за наданне заработнай плаце статусу першачарговага плацяжу, папраўку ў арт. 79 Закона аб прадпрыемстве. Прадстаўнікі прафсаюза работнікаў прамысловасці, дасягнуўшы мэты, знялі пікеты на плошчы Незалежнасці.

❑На нарадзе кіраўнкоў выканкомаў Саветаў усіх узроўняў А. Лукашэнка заявіў, што эканамічная сітуацыя вымушае яго да прыняцця непапулярных мераў, у тым ліку актыўнай структурнай перабудовы, якая прывядзе да змяншэння рабочых месцаў. Катастрофа пагражае і ў вобласці занятасці

❑На гэтай нарадзе прэзідэнт выказаў верагоднасць правядзення бліжэйшай восенню чарговага рэферэндуме, на якім з народам будуць раіцца па наступных праблемах: прыватная ўласнасць на зямлю, унясенне змен у Канстытуцыю, пашырэнне НАТО на ўсход. Пытанне з гэтым рэферэндумам канчаткова не вырашана, але на поўначы рэспублікі адзін рэферэндум адбудзецца– будзе высвятляцца пазіцыя гараджан адносна плануемага злучэння Полацка і Наваполацка.

❑Указам прэзідэнта наш галоўны тэатр пераўтвораны ў творчае аб'яднанне "Нацыянальны акадэмічны Вялікі тэатр оперы і балета Рэспублікі Беларусь" са стварэннем у яго структуры дзвюх юрыдычных асоб– Нацыянальнага тэатра оперы і Нацыянальнага тэатра балета. Гаворка ідзе не аб простай змене шыльдаў, да чаго мы ўжо прызвычаіліся. Указам прадугледжана стварэнне больш спрыяльных умоў для творчасці: пачнецца рэстаўрацыя перададзенага ў распараджэнне адміністрацыі прэзідэнта будынка тэатра, аклады яго работнікам павышаны ў 1,7 раза.

❑Аднак артысты оперы і балета– не адзіныя, чый дабрабыт спрабуюць палепшыць улады. Пасля павелічэння супрацоўнікам АМОНа жалавання ў два разы, сяржант будзе атрымліваць больш за 3 мільёны рублёў.

❑Перадачай справы ў суд скончылася двухгадовае расследаванне махінацый работнікаў дзяржаўнага мемарыяльнага комплексу "Хатынь". Яны абвінавачваюцца ў незаконных фінансавых аперацыях, абнаяўліванні каля 800 млн. руб. для 26 камерцыйных фірм і атрыманні вялікіх хабараў.

❑Затрымкі плацяжоў асобнымі камерцыйнымі банкамі паступова пераходзяць у крызіс банкаўскай сістэмы. Крах буйных банкаў пакіне іх укладальнікаў без сродкаў. Дапамогі ў такой сітуацыі можна чакаць толькі ад Нацыянальнага банка. Той пакуль заклапочаны больш далейшай перспектывай і кансультуецца з банкамі па пытанню стратэгіі развіцця банкаўскай сістэмы да 2000 года.

❑Заканчваецца паўгоддзе, што прайшло пад сцягам курсу долара не даражэй за 13100 руб., калі ігнараваць дадатковыя зборы на біржы і абменным пункце. Які курс будзе ў ліпені, пакуль невядома. Аднак які бы ён ні быў– долары ўсё адно купіць будзе даволі складана.

# "Мяне не запрасілі, а сама напрошвацца не магу"

**На нацыянальным фестывалі песні і паэзіі "Маладзечна-96" гараджане не ўбачылі леташняга лаўрэата, сваю зорачку Стэлу.**

*—Спачатку разгубіліся, а потым узрадаваліся, калі ўбачылі цябе па тэлебачанню ў Брэсце, на тэлемарафоне. Значыць, здароўе ў парадку. Няўжо канфлікт з асноўным арганізатарам фестывалю Міхаілам Фінбергам?*

–У мяне з ім выдатныя рабочыя адносіны. Сустракаемся на канцэртных пляцоўках.

*—Тады каго вінаваціць, што не з'явілася сёлета на сцэне?*

–Мабыць, гарадскія ўлады. Наконт мяне проста не ўздымалі пытанне. Ведаю, Фінберг чакаў да апошняга, не ведаючы, ўключаць мяне ў праграму ці не.

*—А чаму ж ён не паклапаціўся?*

–Горад павінен сам заяўляць свайго выканаўцу. Летась Генадзь Карпенка тэлефанаваў у Мінск. І наколькі я ведаю, праблем не ўзнікла.

*—У Брэсце ты спявала "Зажгите белую свечу." Тэма вайны, пакут табе блізкая?*

–У час другой сусветнай брат таты загінуў на Беларусі. І што такое нацыянальныя канфлікты, добра ведаю.

*—Азнач геаграфію тваіх паездак у апошні час.*

–У сярэдзіне мая выступала ў Маскве разам з Распуцінай, Шыфрыным, Талкуновай... Чамусьці мяне прадстаўлялі, як лаўрэата міжнароднага конкурсу ў г. Буфала (ЗША). Я сапраўды маю гэты тытул, але жадала, каб гаварылі пра мяне, як пра беларускую спявачу. У чэрвені ездзіла ў Гродна на першы фестываль нацыянальных культур. Збіраюся ў Арменію на міжнародны форум "Усе зоркі свету". Вельмі хачу пазнаёміцца з Шарлем Азнавурам. Пазней - у Югаславію.

*—Усюды запрашаюць?*

–Сама напрошвацца не магу.

*—Усё тое ж творчае трыо: Стэла, Алена Атрашкевіч— кампазітар, Барыс Асмалоўскі— паэт?*

–Я ўдзячная гэтым людзям. Наш творчы саюз будзе існаваць і далей. Але хачу папрацаваць з масквічамі, Аляксандрамі - Клімавым і Шаганавым. Між двух Аляксандраў загадаю жаданне і тады...

*Здароўем і творчымі планамі цікавіўся*
***Васіль САВІЦКІ.***

## Навіны

### Новыя прыпынкі

***электрацягнікоў з'явяцца на некаторых участках рэгіёна. "РГ" звярталася да "чыгуначных праблем" Маладзечна і Вілейкі.***

Як паведаміў рэдакцыі намеснік начальніка Мінскага аддзялення Беларускай чыгункі Я. Карабкоў, вызначана месца будаўніцтва новага прыпыначнага пункта электрычкі Мінск-Маладзечна паміж Селівонаўкай і райцэнтрам.

Цяпер справа за мясцовай уладай, на якую кладзецца асноўны цяжар– пошук крыніц фінансавання. Патрэбна каля 1 млрд. рублёў.

У бліжэйшы час будзе выбрана месца і для будаўніцтва новага прыпыначнага пункта перад ст. Вілейка (у напрамку ад Маладзечна).

*Аддзел інфармацыі.*

### Асцярожна, міна.

***АСТРАВЕЦ. Супрацоўнікамі мытнага паста Гудагай знойдзена закручаная ў цалафанавы пакет... міна.***

Падчас мытнага агляду цягніка Масква-Вільнюс у адным з вагонаў за ахоўнай рашоткай радыятара ацяплення і выяўлена гэтае самаробнае выбуховае прыстасаванне. Гаспадара міны з дыстанцыйным кіраваннем шукаюць кампетэнтныя органы.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

### "Выратавалі "Кошчын дом"

***ВІЛЕЙКА. Маленькія гараджане выратавалі казачны домік. А іх аднагодкі глядзелі, як гэта рабілася і вучыліся.***

Усё праходзіла, праўда, на сцэне. За чэрвень самадзейныя артысты наведалі ўсе гарадскія школы, лагеры адпачынку, якія побач. Пастаноўку "Кошчын дом" па казцы Маршака і задумкі Алены Альфер, інспектара дзяржпажнагляду, увасобіла Таццяна Касяк, кіраўнік драмгуртка "Крыніца" пры Доме творчасці.

"Кошка" Віка Вербіцкая лічыць, што дзеці больш ніколі не возьмуць у рукі запалкі без дазволу дарослых. Пастаноўку паказвалі ў час "Калыханкі" па кабельнаму тэлебачанню. А пажарныя новую форму прапаганды падтрымліваюць грашыма– пасля прагляду "Кошчынага дома" з гледачамі праводзіцца віктарына. Пераможцам– салодкія прызы.

*Васіль САВІЦКІ.*

### Жыццё на халяву

***МАЛАДЗЕЧНА. Гараджане не адзін год ганарацца трывалымі сувязямі з нямецкімі сябрамі.***

Але, відаць, прызвычаіліся мы жыць на падачкі ў выглядзе гуманітарнай дапамогі. Мусіць, немцам гэта надакучыла, бо пачалі яны дасылаць сюды лекі з прайшоўшым тэрмінам захоўвання, няякасныя прадукты і г. д. Сапраўды, утрымліваць нас яны не абавязаны.

Днямі ў гарадскую бальніцу паступіла з Германіі партыя агароднінных кансерваў. Адсутнасць хоць нейкага пасведчання аб якасці, дэфармацыя, мамбаж, прабоіны прымусілі РЦГіЭ забараніць размеркаванне прадуктаў. Частку кансерваў, аднак, найбольш спрытныя паспелі расцягнуць. На гэты раз "воцат на халяву" салодкі не будзе.

*Аддзел інфармацыі.*

## Сітуацыя не радуе

***МАЛАДЗЕЧНА. Прайшла чарговая сесія гарадскога савета, на якой разглядаліся пытанні па санітарна-экалагічнаму стану, аб працоўнай занятасці насельніцтва і крыміналагеннай сітуацыі ў горадзе.***

Пазбавіцца ліцэнзіі могуць фірмы, якія пасля выязнога гандлю пакідаюць пасля сябе смецце. Па прапанове старшыні выканкома гарсавет прыняў зварот да Мінскага аблвыканкома аб перадачы калгаснага рынку ў гарадскую маёмасць, што выклікае шмат пытанняў.

Што тычыцца гарачай вады, якая адсутнічае ў кранах 3/4 жыхароў горада, то падача чакаецца дзесьці праз месяц. У сувязі з даўгамі Беларусі за газ (праплата складае толькі 20%), мяркуецца ўключаць яе 3 дні (пятніца, субота, нядзеля). Як сказаў старшыня выканкома, цяпер увогуле стаіць пытанне аб поўным адключэнні з боку Расіі паступлення газу на Беларусь.

Не радуе і крымінагенная сітуацыя ў горадзе, дзе ў параўнанні з мінулым годам злачыннасць узрасла на 8,8%, а раскрываецца крыху больш за палавіну правапарушэнняў.

Выклікае здзіўленне поўная абыякавасць большасці дэпутатаў (у асноўным кіраўнікоў структур) да нарастаючага, як снежны ком, беспрацоўя; прынамсі не было чуваць прапаноў па механізму стварэння ў горадзе новых рабочых месцаў, хаця б для зарэгістраваных на біржы працы 3320 гараджан.

Затое многім яўна не давалі спакою лаўры папулярнага булгакаўскага героя з яго няўрымслівай барацьбой з бадзяжнымі сабакамі - гэтаму была прысвечана львіная доля сесіі.

*Алесь ЦАДКО.*

## Для тых, хто верыць Месяцу

### Месяцавы каляндар на ліпень

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Панядзела<br>Мес.дзень | 1<br>21.31<br>17 | 8<br>0.49<br>23 | 15<br>5.10<br>20.08<br>30; 1 | 22<br>12.35<br>8 | 29<br>20.05<br>15 |
| Аўторак<br>Мес.дзень | 2<br>22.15<br>18 | 9<br>1.09<br>24 | 16<br>6.08<br>2 | 23<br>13.44<br>9 | 30<br>20.45<br>16 |
| Серада<br>Мес.дзень | 3<br>22.51<br>19 | 10<br>1.37<br>25 | 17<br>7.10<br>3 | 24<br>14.35<br>10 | 31<br>21.19<br>17 |
| Чацвер<br>Мес.дзень | 4<br>32.22<br>20 | 11<br>2.09<br>26 | 18<br>8.11<br>4 | 25<br>16.05<br>11 | |
| Пятніца<br>Мес.дзень | 5<br>23.49<br>21 | 12<br>2.46<br>27 | 19<br>9.16<br>5 | 26<br>17.14<br>12 | |
| Субота<br>Мес.дзень | 6<br>-<br>21 | 13<br>3.28<br>28 | 20<br>10.21<br>6 | 27<br>18.19<br>13 | |
| Нядзеля<br>Мес.дзень | 7<br>0.46<br>22 | 14<br>4.17<br>29 | 21<br>11.26<br>7 | 28<br>19.16<br>14 | |
| Дата | 1 ліп. | 7 ліп. | 15 ліп. | 23 ліп. | 30 ліп. |
| ФАЗЫ Месяца | поўня | 4 чв. | маладз. | 2 чв. | поўня |

Усход Месяца– для Маладзечна

**Крытычныя месяцавыя дні**– 9, 15, 19, 23, 29– патрабуюць перасцярогі і абароны.

**Спрыяльныя месяцавыя дні**– 6, 10, 12, 16, 17, 30– даюць добрую энергію і падтрымку светлымі сіламі.

### Месяц у знаках Задыяка

| ДАТА | 2 | 4 | 6 | 9 | 11 | 13 | 16 | 18 | 21 | 23 | 26 | 28 | 30 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| ЗНАК | ♒ | ♓ | ♈ | ♉ | ♊ | ♋ | ♌ | ♍ | ♎ | ♏ | ♐ | ♑ | ♒ |

У верасні чакаецца месяцавае зацьменне. У сувязі з гэтым прапануем нататкі аб ролі зацьменняў у жыцці Ф. Скарыны.

У 1530 г. адбыліся месяцавае і сонечнае зацьменні. У тым жа годзе памёр праваслаўны гетман К. Астрожскі, пад чыім кіраўніцтвам доўгі час адбіваліся нападзенні крымскіх татараў і ахоўвалася непарушнасць паўднёвых межаў Вялікага Княства Літоўскага.

Таксама вядома, што ў 1530 годзе ў Вільні адбыўся вялікі пажар, які знішчыў дзве трэці жылых і гаспадарчых пабудоў горада.

У той самы час летапісцы з трывогай адзначалі пад 1531 год: "пришла саранча на Лядскую землю и на Литовскую, около Берестия и около Менска, и Свержна, и Койданова, Ивенца, и около Вилни видели летаючых, и поели жыто, и ярыну, и траву".

Аб'яднальным момантам прыведзеных вышэй гістарычных фактаў з'яўляюцца зацьменні, адзначаныя Скарынай у "Паскаліі" у 1530 годзе. Гэтыя зацьменні адбіліся на экалогіі і сацыяльна-эканамічным становішчы грамадзян ВКЛ, у тым ліку і на дзейнасці Скарыны.

28 сакавіка 1530 года ў 5 гадзін 30 хвілін, як піша Скарына, адбылася другая гібель Сонца. Так ён называў сонечнае і месяцавае зацьменні. Прычым у зацьменне была закрыта большая палавіна дыска Сонца.

Уплыў зацьмення праяўляўся на працягу доўгага часу прапарцыянальна яго працягласці. У выпадку сонечнага зацьмення яго ўздзеянне будзе працягвацца столькі год, колькі гадзін працягвалася яно само. З гэтай прычыны можна прадказаць, што зацьменне адбывалася на працягу гадзіны, можа быць, паўтары. У гэты час Сонца у гараскопе Скарыны знаходзілася, прыкладна, на мяжы першага-другога дэкана Авена і яго ўздзеянне адбілася: у смерці гетмана ВКЛ Канстанціна Астрожскага, які атрымаў перамогі над татарамі больш чым у 60 баях; у вайне з Масковіяй; перамяшчэннях войскаў, раздорах, судовых разбіральніцтвах; а ў 1531 годзе ў выглядзе апаганення саранчой, храфстрай, якая паядае на сваім шляху вырашчанае сялянамі раслиннае покрыва.

Далей Скарына адзначае, што 16 кастрычніка, у 6 гадзін папоўначы гібель усяго Месяца, ці поўнае зацьменне Месяца. У выпадку месяцавага зацьмення, яго ўздзеянне працягваецца столькі месяцаў, колькі гадзін працягвалася яно само. Напрыклад, дзеянне месяцавага зацьмення, якое адбылося 10 снежня 1973 года і працягвалася 1 гадзіну 11 хвілін, адчувалася адзін месяц і шэсць дзён.

Адзначаныя Скарынам зацьменні патрабуюць дадатковых даследаванняў, аднак з упэўненасцю можна сказаць, што Сонца ў гэты час у яго гараскопе знаходзілася, прыкладна, на мяжы другога-трэцяга дэкана Вагаў, а Месяц, адпаведна, у першым дэкане Авена. Месяцавае зацьменне ў першым дэкане Авена дае падпалы, пажары, ліхаманкі і сухасць паветра. Да таго ж, 13 градус Авена, у якім знаходзіцца Куспід X Дома, указвае на градус пажара, які іграе фатальную ролю ў жыцці Скарыны. Вось чаму, верыце вы ў гэта ці не, прыкладна ў лістападзе 1530 года адбыўся вялікі пажар у Вільні, які прынёс Скарыну шмат непрыемнасцей.

*Іван ШУБЦІК, Маладзечна.*

## 82+113: валожынцы загартоўку добрую маюць

# Мэлька- Варшавянка

***Маланння Іванаўна Сабалеўская, здаецца, ведае ўсе старыя песні: словы, мелодыі, адчувае той непаўторны каларыт, з якім яны выконваліся ў часы маладосці. У свае 82 гады жвавая бабулька з асаблівай цеплынёй успамінае службу "пакаёўкай" у міністра замежных спраў Польшчы.***

Са сваёй радзімы - вёскі Сіняя Гара, што на Валожыншчыне,- шаснаццацігадовай паехала на заробкі ў Варшаву. Міністр меў трохпавярховы дом у горадзе. "Русыянка", як яе звалі, даглядала там кветкі, адказвала на тэлефонныя званкі, бегала за цыгарэтамі для старэйшай дачкі пана. Часцей за ўсё цыгарэты заканчваліся ўвечары і трэба было сунуцца за імі ў цемру. Калі Маланння прыязджала ў водпуск, прывозіла за раз столькі грошай, колькі бацька атрымліваў, прадаўшы ўвесь ураджай. Вёска клікала яе "Варшавянкай", паважала і прыходзіла слухаць, як жывуць заможныя людзі.

Маланння Іванаўна размаўляе па-беларуску, чытае на расейскай, а піша толькі па-польску. Праваслаўная па веры, яна пражыла цяжкае жыццё. З шасцярых дзяцей паўналецце спраўлялі двое. Сур'ёзна захварэў муж, і сама згадзілася на адну з першых аперацый у той час па выдаленню жоўцевага пузыра. Сёння яна разам з дачкой і ўнучкай жыве ў трохпакаёвай кватэры ў пасёлку Беразінскае. І ў сям'і Маланння Іванаўна– лідэр.

*Васіль САВІЦКІ.*

# У свае 113 баба Шура без нажа есці не садзіцца

***Жыве яна ў вёсцы Крэва ў доме Міхалькевічаў. Незнаёмая сям'я стала сваёй, роднай.***

Аляксандра Ажэўская вырасла на Валожыншчыне. Там уступіла ў шлюб, нарадзіла дзяцей. Доўгі час працавала ці то гувернанткай, ці то служанкай. Лёс не пашкадаваў яе сям'ю– пахавала дзяцей, мужа. Цяжка было адной, усё нагадвала аб перажытым. Таму і знялася з родных мясцін, паехала да радні на Смаргоншчыну. Але ад адзіноцтва не пазбавілася. Значны час праводзіла ў суседзяў: дапамагала па гаспадарцы, гадавала іх дзяцей Лену і Свету. І засталася жыць назаўсёды.

У свае 113 за сталом карыстаецца нажом, з задавальненнем глядзіць па тэлевізары мастацкія фільмы з Любоўю Арловай. Чакае з горада ўнучат– бабулі абавязкова прывозяць пачастункі. Падабаюцца цукеркі. А вось банан раз пакаштавала– не спадабаўся.

Баба Шура ведала каля тысячы песень, але ў апошні час не спявае, пачала словы забываць. Слухае ўважліва, калі хто на вёсцы зацягне. Бывае, прыкідваецца: "Не чую, што гаворыце?" Які ў бабулі настрой, так яна сябе і паводзіць.

На свята чарку-другую вып'е. Тады ўжо ўспамінае. Асабліва Першую Сусветную. Палохаецца моцнага шуму. Можа, ён нагадвае ваенныя падзеі: дастаткова іх было за яе доўгае жыццё.

*Васіль САВІЦКІ.*

# "Кулакі" машуць кулакамі

***ВАЛОЖЫНСКІ Р-Н. На тэрыторыі Дорскага сельсавета летась было 18 фермерскіх гаспадарак. Цяпер іх 10. У перспектыве далейшае памяншэнне.***

Гаспадаркі ў асноўным спецыялізуюцца на раслінаводстве, маюць ад 30 да 50 гектараў зямлі. Ёсць фермеры, якія толькі пачынаюць займацца жывёлагадоўляй на 5 гектарах. Усе свае, былыя калгаснікі. Прыезджыя распачалі дзейнасць, але не прыжыліся. Гэта мінчане: два пенсіянеры, майстар вучылішча, які ўзяў 50 гектараў і спрабаваў разводзіць авечак.

Адразу пайшлі справы ў былых кіраўнікоў калгаса "Дорскі", намесніка старшыні Віктара Русовіча і галоўнага інжынера Генрыха Кнітара. У кожнага было па 50 гектараў. Збожжавых атрымлівалі па 50 цэнтнераў. Працавалі ў звязцы. Сёння галоўны інжынер застаўся адзін і лічыцца моцным гаспадаром сярод фермераў.

*Васіль САВІЦКІ.*

# Падлетак-96

***МАЛАДЗЕЧНА. Вось некаторыя вынікі даследаванняў сацыяльна-псіхалагічнага цэнтра. Апытана 622 падлеткі са школ, вучылішча №135, улікова-планавага тэхнікума.***

21% удзельнікі нефармальных груп: з іх

60% цікавяцца танцамі;

20% займаюцца ўсходнімі адзінаборствамі;

19% фанаты, металісты, рокеры;

0,8% удзельнікі руху за адраджэнне нацыянальнай культуры.

12% наведваюць спартыўныя секцыі;

2% наведваюць музычную студыю (школу).

у 84% сябры ўжываюць спіртное;

у 9%– наркотыкі;

30% вядуць бязладнае палавое жыццё;

19% займаюцца вымагальніцтвам, рэкетам;

41% лічыць: калі кахаеш, то можна ўступаць у палавую сувязь;

2% лічаць палавое жыццё карысным;

6% уступаюць у палавую сувязь, бо так модна;

24% упэўнены, што ў гэтым узросце сексам займацца нельга;

у 22% аднагодкі хварэлі на венерычныя захворванні.

У 35% дружная сям'я;

толькі 15% хочуць праводзіць вольны час разам з бацькамі.

Найбольш папулярныя газеты: "Частный детектив", "Двое", "СПИД-инфо".

36% асноўнай праблемай лічаць адсутнасць матэрыяльных сродкаў, каб модна апранацца;

9% хочуць зрабіць усё магчымае, каб жыццё ў краіне стала лепшым;

12% не супраць з'ехаць за мяжу.

## Нашы норавы

# Канфлікт справакавала жанчына

***Сваркі паміж сваякамі, бывае, заканчваюцца так: пранікальнае раненне. З-за Алы Цанцавіцкай з Маладзечна пасварыліся два мужчыны. У выніку: муж трапіў у бальніцу, сужыцель на 5 гадоў пазбаўлены волі.***

Пенсіянер Часналовіч з Барысава прыехаў у Маладзечна і наведаўся да былога суседа. Думаў, можа пошта на яго імя яшчэ ідзе на стары адрас. Генадзь Цанцавіцкі заканчваў перабіраць грыбы, якія толькі што прынёс з лесу.

Разам схадзілі ў Дом культуры на спектакль. Затым купілі дзве бутэлькі "Празрыстай" і вярнуліся вячэраць.

Гаспадар ставіў на стол студзень, мяса, калі ў кватэру прыйшла гаспадыня разам з высокім мужчынам. Ён быў гадоў на 10 маладзей за Алу, з вусамі над вытыркнутай наперад губой. Па-хатняму ўладкаваліся. І ён, і яна ў падпітку. Адносіны паміж імі, відаць, былі больш за сяброўскія.

–Што за справы, Гена?– здзіўлена спытаў Часналовіч і кіўнуў у бок Алы.

–Нічога. Мы жывем дружна,– спакойна адказаў той.

За чаркай сядзелі ўчацвярых.

*"Цікавая" сям'я Цанцавіцкіх. Генадзь з Алай маюць пяцярых дзяцей. Старэйшая дачка Надзея жыве і працуе ў Оршы. Дзве дзяўчынкі-падлеткі ў інтэрнаце, адна з бабуляй у вёсцы. З бацькам разам жыве толькі 26-гадовы сын.*

*... –Летам 94-га мае адносіны з мужам сапсаваліся,– расказвала пазней следчаму Цанцавіцкая.– Я перабралася жыць да Уладзіміра Танакова. Ён быў судзімы, знаходзіўся пад наглядам. З верасня па май 95-га я была пад вартай. Вярнулася дадому– у мужа іншая жанчына. Што рабіць? Зноў паехала да Уладзіміра. У яго свае праблемы з жонкай. Вось мы і вырашылі жыць у маёй маладзечанскай кватэры. Муж нам не перашкаджаў, мы яму таксама...*

Павячэралі. Распілі бутэльку.

*–Я ж не ведала, што яшчэ адна засталася,– расказвае Цанцавіцкая.– Спрабавала пазычыць у Часналовіча 20 тысяч на гарэлку. Не даў.*

Ала і Танакоў пайшлі ў краму. Вярнуліся ў палове другой ночы. Яшчэ выпілі. Гаспадар пайшоў да сябе ў пакой спаць. Гаспадыня з Уладзімірам– да сябе.

*–Часналовіча я накіравала ў пакойчык сына, якога не было тады,– давала сведчанні Цанцавіцкая.– Паказала, дзе легчы. Ён мне і прызнаўся, што даў Гену 40 тысяч на гарэлку.*

У той жа момант Ала кінулася ў пакой да гаспадара.

–Дзе грошы?

–Ідзі ты ...,– пачула ў адказ сонны голас.

Яна і сама ведала, дзе шукаць. Залезла ў заднюю кішэню мужчынскіх штаноў і забрала грошы.

Гаспадар падняўся з ложка. Штурхануў жанчыну. Узняў на яе руку, але пачуў голас Танакова.

–Не чапай яе,– Уладзімір імгненна вярнуў саперніка (за якога быў на 19 гадоў маладзейшы) зноў на пожак.

Бойка адбылася ў калідоры. Калі Цанцавіцкая выйшла з пакою, яе муж ляжаў на падлозе з дзіркай у жываце.

–Больш ён нас не зачэпіць,– пачула жанчына суцяшальныя словы свайго палюбоўніка.

Побач з целам знаходзіўся сцізорык Уладзіміра Танакова. Менавіта з ім Генадзь Цанцавіцкі напярэдадні хадзіў па грыбы.

"Шведская" сям'я з Маладзечна не вытрымала выпрабавання гарэлкай. 8 мая гарадскі суд асудзіў Танакова.

*Святлана САРОКА.*

# Работу страціць лёгка. А знайсці?

***АСТРАВЕЦ. І тут стаў актуальным выраз "рынак працы", яшчэ нядаўна ўспрымаемы выключна з негатыўным адценнем як атрыбут "іхняга" ладу жыцця. Як на ўсялякім рынку, на ім існуе попыт і прапанаванне. Ці ёсць паміж імі нейкая прапорцыя?***

Пэўную заканамернасць паміж шанцам страціць работу і яе знайсці прасачыць можна. Колькасць беспрацоўных, зарэгістраваных у Астравецкім цэнтры занятасці на цяперашні час, набліжаецца да 800 чалавек, узровень беспрацоўя– да 5 працэнтаў, пры сярэднеабласным 3,8 працэнта. Прычыны гэтай масавай з'явы агульнавядомыя: скарачэнне штатаў на прадпрыемствах і арганізацыях альбо закрыццё асобных суб'ектаў гаспадарання. Аднак большае і тых, хто звальняецца па ўласнаму жаданню, стаміўшыся ад бясконцых вымушаных водпускаў ці ад немагчымасці ў тэрмін атрымаць зароблены вартыя жалю грошы. Работнікі службы занятасці прагназуюць рост якраз гэтай катэгорыі беспрацоўных.

А якой колькасці "шчаслівчыкаў" пашанцавала зноў знайсці працу? Паводле дадзеных цэнтра, на працягу мінулага і за 5 месяцаў бягучага года працаўладкавана 311 чалавек. І тут відаць адну трывожную заканамернасць крызіснай эканомікі: колькасць беспрацоўных няўхільна расце, а свабодных рабочых месцаў меншае. На адну вакансію прыходзіцца 50-80 чалавек, але прадпрыемствы раёна сёння не маюць патрэбы ў рабочых.

Каб хоць неяк падтрымаць людзей, даць ім магчымасць часовага заробку, служба занятасці арганізуе сезонныя грамадскія работы па дамоўленасці з калгасамі– на ўборцы бульбы, лёну. Летась падзарабіць такім чынам здолелі 169 чалавек. Сёлета мяркуецца ўладкаваць прыкладна столькі ж, хаця жадаючых знойдзецца куды больш, бо падзарабіць хочуць і школьнікі, і пенсіянеры. Але з аб'ёмам работ будзе туга: у гаспадарках пасяўныя плошчы лёну і бульбы змяншаюцца.

Вялікія складанасці ўзнікаюць у фарміраванні фонду садзеяння занятасці, з якога ідзе фінансаванне ўсёй праграмы. Практычна спынілі пералічэнні грошай у фонд занятасці калгасы (акрамя "Шляху Леніна"), вялікую запазычанасць маюць будаўнічыя і бюджэтныя арганізацыі. Між тым, толькі на выплату дапамог штомесяц расходуецца больш за 60 мільёнаў рублёў. Калі так і далей будзе, пачнуцца затрымкі выплаты дапамог, чаго дагэтуль не здаралася. Кола замкнецца?

*Таіса СЁМІНА.*

